ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 44(5226)
Аўторак, 17 красавіка 2001 года

Кошт у розніцу — 50 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі

## Сельская школа просіць дапамогі

**Віктар Мікалаевіч Грыцук, загадчык аддзела адукацыі Камянецкага раёна.**

— На з'ездзе настаўнікаў хацелася б сказаць некалькі слоў у абарону сельскай школы. Калі ўжо мы аб'явілі сябе дзяржавай цэнтральнай Еўропы і прынялі шэраг дзяржаўных праграм, якія тычацца інфарматызацыі сістэмы адукацыі, вывучэння замежных моў.., то неабходна ў 1-2 гады ўкласці ў іх і грошы, паставіць камп'ютэры ў кожную школу. Сёння свет хвалюе праблема хакерства, а дзеці з глыбінкі нават не ўяўляюць значэння гэтага слова, бо ніколі не бачылі камп'ютэр. Мясцоваму бюджэту цяжка набываць тэхнічныя сродкі інфармацыі, а аграрнаму раёну тым больш.

Апроч гэтага, трэба звярнуць увагу на статус дырэктара школы. Лічу, што яму неабходна больш давяраць. Школа нясе велізарную адказнасць за кожнага вучня, за яго ўчынкі і парушэнні, што несувымерна з аплатай працы педагога. Паглядзіце, колькі начальнікаў стаіць над кіраўніком установы адукацыі, якія вырашаюць пытанні паліва, забеспячэння кадрамі, быццам дырэктар горш ведае, што ў першую чаргу патрэбна для школы! На жаль, кіраўнік адукацыйнай установы не распараджаецца фінансамі.

Сёння школа прымае дзіця, корміць, кладзе спаць, вучыць, падвозіць да школы і яшчэ нясе адказнасць за яго. На жаль, няма адказнасці сям'і, яна папросту праdэкламавана. Здаецца, залішняя дэмакратыя дадзена мамам і татам, бо выхаванне дзіцяці, як і выбары, — пытанні, якія патрабуюць вялікай адказнасці перад дзяржавай.

Станоўчым з'яўляецца факт, што ў настаўніка ёсць свабода ў выбары адукацыйных тэхналогій навучання. Але і гэта патрабуе фінансавай падтрымкі. Сёння аднаго энтузіязму мала. Паехаўшы ў Мінск на курсы, мы бачым, якія школы ў сталіцы, а якія ў Камянецкім раёне, яны нават у адным радку стаяць не могуць. Хоць унутраныя інтэр'еры і прылягаючыя тэрыторыі ў нас не горшыя за гарадскія, а дзесьці і лепшыя. Затое самі будынкі... У нас ёсць школа ў раёне, якой 120 год, а зойдзеш у яе — прыгажосць.

Нашы органы адукацыі павінны выходзіць з хадайніцтвам па пытаннях школьнай мэблі на ўзровень абласных ці рэспубліканскіх фінансавых сродкаў, бо гэта не толькі эстэтыка, а, у першую чаргу, здароўе дзяцей. Месца, дзе сядзіць настаўнік і вучань, павінна быць зручным і падабраным па росце. Аб якім здароўі можна гаварыць, калі ў нас разам сядзяць за партай "метр семдзесят" і "метр пяцьдзесят".

Хацелася б сказаць, што ўжо час выпусціць у дапамогу дырэктару школы зборнік (па прыкладзе часопіса класнага кіраўніка расійскага выдання), дзе кіраўнік мог бы аператыўна атрымліваць інфармацыю па прававых пытаннях. Так званы "кароткі даведнік дырэктара школы".

Напрыканцы скажу, што калі мы сапраўды хочам зберагчы вёску, то нам неабходна дзяржаўная праграма будаўніцтва жылля для настаўнікаў. Аб тым жа, што педагог не працуе толькі тады, калі спіць, а яго зарплата не вытрымлівае ніякай крытыкі, — усім вядома...

**Падрыхтавала Вольга ДУБОВІК.**

Міжнародныя кантакты

## Банжур, сябры!

***У перадвелікодныя дні сярэднюю школу № 148 Савецкага раёна сталіцы наведалі госці з Францыі — настаўнікі і вучні ліцэя Ален Коля горада Невер (Бургундыя).***

Як расказала намеснік дырэктара школы па навукова-выхаваўчай рабоце Галіна Паянава, настаўнікі, вучні іх навучальнай установы кантактуюць з французскімі сябрамі каторы год.

Што паклікала ліцэістаў, іх настаўнікаў з Невера ў дарогу?

— На гэты раз, — адказала Галіна Яўгенаўна, — неабходнасць і магчымасць ліцэістам, якія вывучаюць рускую мову, наведаць мінскіх сяброў, пабачыць іх, так бы мовіць, у непасрэднай справе — падчас вучобы.

Праграма візіту (а ён трэці па ліку) складзена з такім разлікам, каб кожны з дваццаці дзяўчат і юнакоў — гасцей-ліцэістаў — пабываў на ўроках беларускай і рускай моў, гісторыі, хіміі, фізікі, матэматыкі.

Асобным раздзелам вылучаецца і культурная праграма. Госці з Францыі наведаюць сталічны оперны тэатр, цырк, зробяць не адно падарожжа па гасціннаму Мінску.

Узначальвае дэлегацыю з Невера настаўнік рускай мовы Жан-Клод Гадо. Яму дапамагаюць выкладчыкі ліцэя Тэрэз Ог і Жан-П'ер Барыне.

**Наш кар.**

НА ЗДЫМКАХ: Жан-Клод Гадо, выкладчык рускай мовы, Жан-П'ер Барыне і Тэрэз Ог (справа налева) з вучнямі сярэдняй школы № 148; ліцэістка Сафі Гаран і мінская дзевяцікласніца Вольга Федарчук знайшлі агульную мову.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

У новых эканамічных умовах

## Мясцовае кіраванне і адукацыя

***Абагульняючым вынікам развіцця прафтэхадукацыі Магілёўскай вобласці з'яўляецца той факт, што нам удалося не толькі захаваць сетку прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, забяспечыць іх нармальнае функцыянаванне, але і ўнесці якасныя змяненні. У апошнія 10 гадоў восем ПТНУ атрымалі статус вышэйшых, ажыццяўляюць паглыбленае прафесійна-тэхнічнае навучанне, інтэграванае з сярэднім спецыяльным.***

А зусім нядаўна паводле рашэння абласнога выканаўчага камітэта два вучылішчы былі ператвораны ў прафесійна-тэхнічныя каледжы, а рэгіянальны цэнтр прафесійнай адукацыі — у прафесійны ліцэй.

У рамках навучальна-метадычных аб'яднанняў "ПТНУ — ССНУ" 11 прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў паспяхова супрацоўнічаюць з аднапрофільнымі тэхнікумамі, ПТНУ сталі эфектыўна працаваць па аказанні такога тыпу адукацыйных паслуг, як вывучэнне прафілюючых агульнаадукацыйных прадметаў на павышаным узроўні. Пашыраецца спектр адукацыйных паслуг, звязаных з падрыхтоўкай, перападрыхтоўкай, павышэннем кваліфікацыі кадраў па рабочых прафесіях.

Ва ўмовах дэфіцыту фінансавых рэсурсаў ПТНУ шукаюць крыніцы павелічэння пазабюджэтных даходаў. У нас склалася пэўная практыка ўплыву выканаўчай улады непасрэдна на прафесійна-тэхнічныя навучальныя ўстановы. Сістэматызавана работа па падрыхтоўцы кадраў для вёскі аб'яднанымі намаганнямі мясцовых улад, устаноў адукацыі, сельскагаспадарчых і прамысловых прадпрыемстваў. Аблвыканкам прыняў рашэнне "Аб абласной праграме падтрымкі развіцця сельскіх прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў", якое паэтапна ажыццяўляецца. Цяпер паліва нашым вучылішчам адпускаецца па фіксіраваных цэнах. Са ста закупленых за кошт абласнога бюджэту камбайнаў пяць аддадзены ПТВ. Эксперыментальныя ўзоры сельскагаспадарчай тэхнікі, якую выпускаюць прадпрыемствы Магілёва і Бабруйска, таксама цяпер будуць перадавацца бясплатна нашым ПТВ.

Абласны выканаўчы камітэт сваім рашэннем зацвердзіў умовы і паказчыкі спаборніцтва калектываў ПТНУ на лепшую арганізацыю навучальна-выхаваўчай работы. Для заахвочвання заснаваны пераходны Сцяг і вымпелы, грашовыя прэміі.

Сістэмай стаў удзел кіраўнікоў і работнікаў выканаўчых камітэтаў у жнівеньскіх нарадах і пасяджэннях педагагічных нарадаў, днях ведаў, семінарах, калегіях упраўлення адукацыі.

У вобласці паспяхова функцыянуе цэнтр прафесійнай і сацыяльнай рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў на правах структурнага падраздзялення Магілёўскага эканамічнага прафесійна-тэхнічнага каледжа, дзе акрамя навучання па сямі рабочых прафесіях забяспечваецца сацыяльная і медыцынская дапамога, жадаючыя працягваюць навучанне на 2-й ступені з мэтай атрымання сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Намі прынята рашэнне аб стварэнні аналагічнага цэнтра прафесійнай і сацыяльнай рэабілітацыі дзяцей з недахопамі псіхафізічнага развіцця на базе вышэйшага прафесійнага вучылішча будаўнічага профілю Бабруйска. Усе нашы дасягненні — вынік працы работнікаў ПТВ, якія ў гэтых цяжкіх умовах аддаюць сваю дабрыню, веды, вопыт, дапамагаюць дзецям адчуць чалавечае цяпло, не страціць веру ў справядлівасць.

На ўзроўні рэгіёна рыхтуецца мэтавая комплексная праграма "Кадры прафесійна-тэхнічнай адукацыі", дзе будзе прадстаўлена цэласная сістэма прафесійнага росту кожнага педагога. Выкладчык, майстар вытворчага навучання павінен дакладна ведаць, калі ён будзе накіраваны на навучанне ці на павышэнне кваліфікацыі, калі яму будзе прысвойвацца чарговая кваліфікацыйная катэгорыя, калі ён будзе рэкамендаваны, каб узначаліць метадычную камісію, калі і пры якіх умовах яго кандыдатура будзе разглядацца на вылучэнне для кіравання ўстановай адукацыі ці для работы ў органах кіравання адукацыяй.

На жаль, і на ўзроўні ўрада Рэспублікі Беларусь, і на рэгіянальным недастаткова займаюцца эканомікай адукацыі. Пытанні, звязаныя з рашэннем, колькі і па якіх прафесіях рыхтаваць спецыялістаў сёння, праз два гады, пяць гадоў, якой павінна быць колькасць ПТНУ ў рэгіёне, разглядаюцца толькі ў самой сістэме адукацыі. Неабходна аб'яднаць, скаардынаваць заканадаўча і нарматыўна адукацыйныя ўстановы з дзяржаўнымі структурамі, з канкрэтнымі галінамі гаспадаркі, гэта значыць забяспечыць узгодненыя інтарэсы асобы, работадаўцаў і дзяржавы, заканадаўча замацаваць характар гэтых сувязяў. У выніку атрымаем значную эканомію бюджэтных грашовых сродкаў.

У апошнія гады намецілася значнае адставанне ў развіцці вучэбна-матэрыяльнай базы прафесійна-тэхнічнай адукацыі, абнаўленне якой практычна не фінансуецца. Змяніць сітуацыю можна праз двухканальную сістэму фінансавання. Напрыклад, абласны бюджэт — гэта заработная плата, харчаванне, стыпендыі; рэспубліканскі бюджэт — тэхнічнае пераўзбраенне сістэмы з улікам эканамічна абгрунтаванага кошту навучання кваліфікаванага рабочага па кожнай з прафесій.

Упэўнены, што гэтыя праблемы, як і многія іншыя, будуць вырашаны, бо развіццё прафесійнай адукацыі — не толькі вырашэнне праблем кадравага забеспячэння эканомікі, але і самыя эфектыўныя інвестыцыі ў будучыню эканомікі нашай краіны.

**Анатоль ГЛАЗ, намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама.**

Даты

## 150-я вясна

Па сведчанні старажылаў і архіўных дакументаў, Акцябраўская сярэдняя школа Кармянскага раёна Гомельскай вобласці была адчынена ў 1851 годзе. Сёлета ўстанова адзначыць свой 150-гадовы юбілей. Педагагічны калектыў школы звяртаецца да былых вучняў, работнікаў установы, выпускнікоў абавязкова адгукнуцца на падзею і прыняць удзел ва ўрачыстасці. Магчыма, хтосьці пагодзіцца даслаць у школу свае фотаздымкі, звязаныя з яе багатай гісторыяй.

Напачатку ў будынку школы працавала Бычанскае аднакласнае народнае вучылішча. І толькі ў 1918 годзе тут была адчынена чатырохкласная пачатковая школа. У 1930 годзе яна стала сямігодкай, а ў 1940 — васьмігодкай.

Першы выпуск Бычанскай сярэдняй школы прыйшоўся на 1949-50 навучальны год. А ў 1962 годзе хлопчыкі і дзяўчынкі бязмерна радаваліся, калі перабраліся са "старой" школы ў новую — двухпавярховую. На той момант установа змяшчала 500 вучняў.

Сёння ў Акцябраўскай сярэдняй школе займаюцца 104 вучні, і ўсе яны ганарацца сталым узростам роднай школы.

Спадзяёмся пабачыць сваіх землякоў, каб разам адсвяткаваць юбілейную ўрачыстасць. Яна запланавана на 3 лістапада 2001 года. Наш адрас: 247174, Гомельская вобласць, Кармянскі раён, Акцябраўская сярэдняя школа (тэлефон 2-44-35).

**Калектыў педагогаў.**

Чытач б'е трывогу

## Паступова ўсё страчваем

Паважаная рэдакцыя "Настаўніцкай газеты"

Піша вам настаўніца беларускай мовы і літаратуры з 25-гадовым стажам працы ў Мсціслаўскай школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот Магілёўскай вобласці — Людміла Паўлаўна Петухова.

Апошнімі гадамі сталі нормай нашага жыцця паездкі беларускіх дзяцей на адпачынак за мяжу. Замежныя сябры — амерыканцы, англічане, найбольш італьянцы — з нецярпеннем чакаюць нашых дзетак у сваіх сем'ях. Бяда наша, што мы самі не можам наладзіць сваім дзецям належны адпачынак — з чыстым паветрам, з ежай, багатай вітамінамі. У выніку гэтага многія дзеці маюць "замежных бацькоў", пра якіх яны шмат думаюць і да якіх многія жадаюць паехаць назаўсёды (і некаторым дзецям гэта ўдалося).

На першы погляд гэта вельмі добра. Мы ўдзячны замежным сябрам за іх шчырасць, жаданне дапамагчы нашым дзецям. Але ёсць і адваротны бок медаля.

Што нас чакае ў недалёкай будучыні?

Сярод нашых вучняў павялічылася колькасць правапарушэнняў менавіта за апошнія гады.

Неспакой на душы ад таго, што васьмігадовае дзіця, прыехаўшы з Італіі, на прапанову ўспомніць беларускую песеньку хутчэй гатова праспяваць італьянскую.

Дзеці з-за мяжы прывозяць грошы, адзенне, што нараджае сярод іх пачуццё няроўнасці (бо ёсць дзеці, якія за мяжой не бываюць), узнікае зайздрасць, крыўда.

Горш за ўсё тое, што ўзімку дзеці пакідаюць сваю школу на тры месяцы і едуць на адпачынак з навучаннем. Вучоба за мяжой не можа быць арганізавана належным чынам і не прыносіць вучням карысці. Хіба гэта дапушчальна?

Увогуле, я лічу, што адпачынак павінен быць у дзяцей, нават за мяжой, але толькі ўлетку, на канікулах.

Як настаўніца роднай мовы, вельмі непакоюся за лёс нашай бацькаўшчыны, мовы, культуры, за самастойнасць, бо бачу, як паступова мы ўсё гэта губляем.

Пажадана, каб над маімі словамі задумаліся ўсе настаўнікі школ-інтэрнатаў. І, магчыма, прынялі нейкае рашэнне і ў Міністэрстве адукацыі.

**З павагаю, настаўніца беларускай мовы і літаратуры Мсціслаўскай школы-інтэрната для дзяцей-сірот**

**Людміла ПЕТУХОВА.**

Працэсы на глыбінцы

## Не павевы моды, а патрабаванне часу

***Паяўленне на Барысаўшчыне вясковай гімназіі далёка не павеў моды, а неабходнасць, што дыктуецца ўзрастаючымі патрабаваннямі да чалавека, які жадае атрымаць вышэйшую ці сярэднюю спецыяльную адукацыю. У перспектыве, у сувязі з рэфармаваннем школы і пераходам на 12-гадовае навучанне, паступаць у ВНУ або ССНУ будуць мець магчымасць толькі выпускнікі гімназічных ці ліцэйскіх класаў. На што ж тады могуць разлічваць здольныя вясковыя хлопцы і дзяўчаты?***

Можна толькі радавацца дальнабачнасці кіраўніцтва Барысаўскага райаддзела адукацыі: каб сельскі навучэнец быў канкурэнтаздольным і роўным у правах і магчымасцях з гарадскім, тут прынялі рашэнне стварыць гімназію ў вёсцы Лошніца, якая налічвае каля 7 тысяч (!) жыхароў. Гэты факт каменціруе дырэктар Лошніцкай гімназіі Віктар Вячаслававіч Алецкі:

— Гімназія была створана з профільных класаў школы, якія далі ў 1998 годзе пераможцаў на абласных алімпіядах па рускай мове і літаратуры, гісторыі, інфарматыцы. Але мы разумелі: каб быў прагрэс, трэба пераходзіць на яшчэ большую індывідуалізацыю навучання...

Сёлетні навучальны год адзінай пакуль што ў Мінскай вобласці вясковай гімназіі пачаўся з наваселля. Цяпер 255 лошніцкіх гімназістаў 5 — 11 класаў займаюцца ў адрамантаваным утульным будынку былой пачатковай школы. Прагімназічныя класы — ад падрыхтоўчага па 4-ы — вучацца ў мясцовай сярэдняй школе. Праграма навучання прадугледжвае чатыры накірункі: філалагічны, фізіка-матэматычны, паглыбленае вывучэнне англійскай мовы і гуманітарны. Прычым прафіляванне не распаўсюджваецца на ўвесь клас, навучэнцы самі выбіраюць найбольш цікавы для іх накірунак. Такім чынам, клас, у якім не больш за 20 чалавек, падзяляецца на групы. Можна ўявіць, наколькі павялічваецца якасць ведаў гімназістаў у такіх малакамплектных групах. Зразумела, з умовай, што з імі займаюцца сапраўдныя спецыялісты. А гэта, па меркаванні В.В.Алецкага, менавіта так. Увесь 11 клас першага выпуску зараз працягвае вучобу ў ВНУ (16 чалавек) і ССНУ (3 чалавекі).

Па адпаведных прадметах кіраўніцтва гімназіі заключыла дагаворы з рознымі ВНУ: БСГА, БАТУ, БДПУ імя М.Танка. Тры разы на год 10 і 11 класы праходзяць тэсціраванне ў гэтых ВНУ або камісія прыязджае прама ў Лошніцкую гімназію. Прымае экзамены ў выпускнікоў таксама гэтая камісія.

Адрознівае гімназію ад звычайнай вясковай школы яшчэ і тое, што на кожнага навучэнца тут адводзіцца па паўгадзіны для навукова-даследчай работы. Для гэтага па прынцыпу індывідуальнага, асабасна-арыентаванага падыходу камплектуюцца групы колькасцю да 5 чалавек. Відавочна, што для звычайнай школы гэта вельмі вялікая раскоша.

У далейшых планах гэтай навучальный установы — увесці з другога ці нават з першага класа ўрокі камп'ютэрнай граматы, што дасць магчымасць у 10-11 класах перайсці да вывучэння інфарматыкі на павышаным узроўні. Акрамя таго, у навучальнай праграме прадугледжаны агульнаэстэтычны цыкл: рытміка, рыторыка, сусветная мастацкая культура, логіка, валеалогія. Педагогі імкнуцца, каб хлопцы і дзяўчаты зразумелі, што культура — гэта не прадмет, а стыль жыцця...

Па рашэнні райвыканкама ў Лошніцы плануюць стварэнне культурна-выхаваўчага цэнтра, куды ўвойдуць Дом культуры, сярэдняя, музычная і спартыўная школы, гімназія і сельсавет. Мяркуецца, што звяном, якое будзе каардынаваць усю работу, стане гімназія.

Наперадзе яшчэ шмат работы. Вядома, без падтрымкі райвыканкама, райаддзела адукацыі тут не абысціся. Дапамаглі і дапамагаюць гімназіі базавыя гаспадаркі — саўгас-камбінат "Барысаўскі" (дырэктар А.Ф.Акуліч) і АТ "Лошніцкі камбікормавы завод" (дырэктар В.І.Лекараў).

Да 2003 года Лошніцкая гімназія павінна атрымаць статус раённай гімназіі. Плануецца, што тут адкрыецца інтэрнат, каб у гэтай навучальнай установе маглі вучыцца здольныя дзеці з усёй Барысаўшчыны. Але рэальнасць гэтых планаў акрэсляць усё ж магчымасці матэрыяльнай базы.

**Алена РАМАНАВА.**

Барысаў.

Навіны

### Вакансій стане менш?

***"Кірмаш" вакансій для студэнцкай моладзі адбыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Яго арганізатарам выступіў камітэт Беларускага патрыятычнага саюза моладзі вядучай ВНУ краіны.***

На "кірмашы" студэнты атрымалі магчымасць пагутарыць з кіраўнікамі прадпрыемстваў і фірм, якія плануюць працаўладкаванне, прадстаўнікамі гарадскога цэнтра занятасці насельніцтва, азнаёміцца з банкам даных наяўных вакансій...

Сур'ёзная ўвага была нададзена працаўладкаванню моладзі ў летні перыяд. Юнакі і дзяўчаты атрымалі поўную інфармацыю пра студэнцкія атрады, якія з наступленнем цёплых дзён адправяцца працаваць не толькі па рэгіёнах Беларусі, але і далёка за яе межы.

**Аляксандр ГРАЧОЎ.**

### На сцэне — юныя тэатралы

***Каторы год у Крынічанскай сярэдняй школе Мазырскага раёна дзейнічае тэатральны гурток. Ім кіруе настаўніца Лілія Міхайлаўна Уласенка. У гуртку ўдзельнічае 30 вучняў пачатковых класаў.***

Многа добрых спраў на рахунку гурткоўцаў. Летась яны паказалі "Казку пра цара Гароха", у якой было задзейнічана 28 юных артыстаў. Спадабалася школьнікам і казка "На балі ў Папялушкі", якую рыхтавалі 25 вучняў.

Бурнымі, працяглымі апладысментамі сустракалі школьных артыстаў на навагоднім балі. Яны паказалі тады казку "Чып і Дэйл спяшаюцца на дапамогу". Цяпер у дзяцей ідуць рэпетыцыі па казцы "Маша і Мядзведзь".

Трэба зазначыць, што перад кожным выступленнем прыгожа афармляецца актавая зала. Дэкарацыю для спектакля, а таксама касцюмы робяць самі вучні.

### Профільныя класы

***Створаны яны ў Крынічанскай сярэдный школе на пачатку навучальнага года. У іх займаецца 38 вучняў двух дзевятых класаў.***

Займаюцца дзеці па спецыяльнай праграме. Асноўны напрамак — эканамічны профіль. Матэматыку ў гэтых класах вывучаюць на павышаным узроўні. Гэты прадмет выкладае настаўніца першай катэгорыі Марыя Міхайлаўна Баравік. Добрых вынікаў дабіваецца і выкладчыца эканомікі Галіна Раманаўна Алісейка, якой прысвоена першая катэгорыя.

**Аляксандр ГРУШЭЦКІ, настаўнік.**

Семінары

## Вучыцца жыць па сродках

***У сучасным свеце ўмовай захавання і развіцця цывілізацыі на Зямлі стала забеспячэнне чалавецтва дастатковай колькасцю паліва і энергіі пры павелічэнні матэрыяльных і духоўных патрэбнасцей людзей, складанасці экалагічных праблем. У працэсе эвалюцыі патрабуецца ўсё большая колькасць энергіі. Аднак запасы традыцыйных відаў энергарэсурсаў абмежаваны. Згубнасць уплыву іх выкарыстання на навакольнае асяроддзе становіцца ўсё больш значнай.***

Рэспубліка Беларусь заўсёды славілася непаўторнымі па прыгажосці блакітнымі азёрамі, паўнаводнымі, маляўнічымі і чыстымі рэкамі. Багаты і унікальны яе прыродны свет, які налічвае сотні відаў раслін і жывёл, шчодрыя яе нетры. Але апошнім часам прырода Беларусі адчувае цяжкі антрапагенны прэс. А забяспечанасць уласнымі энергарэсурсамі складае 10 — 15 працэнтаў ад патрэбнасці.

Ва ўсім свеце экалагічнымі наступствамі павелічэння энергаспажывання ўдзяляецца ўсё больш і больш увагі. Арганізацыя рацыянальнага энергаспажывання з мінімальным экалагічным уплывам становіцца агульным клопатам чалавецтва.

Дык што ж такое энергазберажэнне? Гэта, перш за ўсё, пераход да энергаэфектыўных тэхналогій ва ўсіх галінах эканомікі, уключаючы камунальна-бытавы сектар. Праблема энергазберажэння — актуальная праблема нашага часу, вырашэнне якой дыктуецца ўмовамі кожнай краіны. Так, у Рэспубліцы Беларусь гэтая праблема была ўсвядомлена і ўзведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі. У выніку гэтага распрацавана канцэпцыя, прыняты Закон аб энергазберажэнні, распрацавана сістэма дзяржаўных праграм і створана рэспубліканская сістэма кіравання энергазберажэннем. Пастаўлена і вырашаецца задача стварэння комплекснай бесперапыннай сістэмы адукацыі ў галіне энергазберажэння — ад замацавання на падсвядомым узроўні ў дашкольным узросце навыкаў ашчаднага, дбайнага стаўлення да электраэнергіі да падрыхтоўкі высокакваліфікаваных спецыялістаў у адпаведнай сферы дзейнасці.

Упраўленнем адукацыі Гомельскага аблвыканкама ўдзяляецца належная ўвага пытанням энергазберажэння. Даная праблема абмяркоўваецца на нарадах, калегіях, наладжваюцца секцыі і семінары. У шэрагу прафесійна-тэхнічных вучылішчаў вобласці выкладаецца прадмет "Асновы эфектыўнага энергазберажэння" як прадмет па выбары ці факультатыўны курс. У сувязі з недастатковай колькасцю літаратуры, недастатковым вучэбна-метадычным забеспячэннем названай дысцыпліны ўпраўленнем адукацыі сумесна з упраўленнем па наглядзе за рацыянальным выкарыстаннем цеплаэнергетычных рэсурсаў, вучэбна-метадычным цэнтрам прафадукацыі праведзены семінар-практыкум для работнікаў, якія адказваюць за энергаспажыванне, і інжынерна-педагагічных кадраў ПТВ (ВПВ) па тэме "Метадычнае і інфармацыйнае забеспячэнне прадмета". Перадумовай арганізацыі гэтага мерапрыемства стала неабходнасць энергаасветы ў галіне рацыянальнага выкарыстання энергарэсурсаў.

Адкрыў семінар Мікалай Сяргеевіч Анісім, начальнік прафтэхаддзела ўпраўлення адукацыі, які падкрэсліў важнасць тэмы, акцэнтаваў увагу прысутных на значнасці энергазберагальных рэсурсаў як глабальнай праблемы сучаснасці.

У рабоце семінара прыняў удзел Леанід Васільевіч Шэнец, начальнік упраўлення па наглядзе за РИТЭР, які ў сваім выступленні адзначыў, што энергазберажэнне можна разглядаць як дадатковую крыніцу энергіі, таму што ўкладзеныя ў яго сродкі акупляюцца, як правіла, на працягу 1-2 гадоў. Л.В.Шэнец падкрэсліў неабходнасць укаранення энергазберагальных тэхналогій у бюджэтнай сферы, у прыватнасці адукацыі, у выніку чаго паяўляецца магчымасць зніжэння бюджэтнай датацыі на аплату энергарэсурсаў. А рэалізацыя адпаведнага энергазберагальнага комплексу мер у навучальных установах дасць магчымасць вырашыць шэраг сацыяльных праблем: асветленасці класных памяшканняў, захаванне цеплавога рэжыму і інш.

У працэсе работы семінара-практыкума ўдзельнікі азнаёміліся з індывідуальным цеплавым пунктам, яго абсталяваннем і прынцыпам работы, з тэхналогіяй цеплавой рэабілітацыі жылога дома.

Хацелася б адзначыць, што гэтае мерапрыемства было вельмі насычаным інфармацыяй; адбыўся шырокі абмен думкамі ў працэсе дыскусій, што, несумненна, акажа станоўчы ўплыў на арганізацыю работы ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах Гомельскай вобласці ў накірунку спажывання і зберажэння энергарэсурсаў.

**Алена АЛЯКСЕЕНКА, намеснік дырэктара абласнога вучэбна-метадычнага цэнтра прафесійнай адукацыі.**

Дыскусія: як ацэньваць веды?

# Ад ацэнкі — да самаацэнкі

***"Чалавек схільны ацэньваць сябе так, як, на яго думку, яго ацэньваюць іншыя", — лічыць Р.Бёрнс, псіхолаг-гуманіст. Таму сістэма школьнага ацэньвання ведаў напрамую звязана з фарміраваннем Я-канцэпцыі вучня. Я-канцэпцыя — гэта дынамічная сістэма ўяўленняў чалавека пра самога сябе, у якую ўваходзяць уласнае ўсведамленне сваіх фізічных, інтэлектуальных і іншых якасцей, самаацэнка, а таксама суб'ектыўнае ўспрыманне знешніх фактараў, якія ўплываюць на гэтую асобу. Савецкі псіхолаг Б.Г.Ананьеў пісаў, што развіццё дзіцяці ў школе ажыццяўляецца не толькі праз прадмет і метады навучання, але і шляхам ацэнкі, якая ўяўляе сабой факт самага непасрэднага кіравання вучнем. Аналіз гэтых фактаў пераконвае ў тым, што ўздзеянне ацэнкі на развіццё школьніка шматбаковае.***

Адзнака ўздзейнічае на інтэлектуальную сферу (арыентуе вучня ў набыцці ведаў), на афектыўна-валявую (стымулюе шляхам перажывання поспеху-няпоспеху), фарміруе намеры, запатрабаванні, уплывае на самаацэнку і матывацыю вучня. Гэта значыць, ацэнка ўздзейнічае на асобу ўвогуле.

Неабходна адрозніваць слова "ацэнка" як ацэначнае меркаванне і "ацэнка" як адзнака. Але "адзнака" і ў жыцці, і ў літаратуры ўжываецца вельмі рэдка. Яна (адзнака) набыла такую ўладу, што стала ацэнкай у прамым значэнні гэтага слова.

Вопытныя настаўнікі ведаюць, што іх паводзіны (усведамляецца гэта ці не) носяць ацэначны характар і могуць тармазіць ці садзейнічаць развіццю вучняў як на ўроках, так і ў пазаўрочны час.

Калі ацэнка (адзнака) звычайна мае дачыненне да ступені засваення матэрыялу, то ацэначныя меркаванні асабліва зручныя для кантролю за працэсам навучання, які адбываецца на працягу ўсяго ўрока. А нярэдка за выніковай ацэнкай настаўнікі ўпускаюць з поля зроку якасць гэтага працэсу — як вучні авалодваюць патрэбнымі вучэбнымі прыёмамі. І вось тут вельмі дарэчы шматлікія малыя формы ацэнкі: ківок, заахвочвальны позірк, адабрэнне, пахвальба, дзелавая канстатацыя памылкі і г.д. Такія адносіны, такі спагадлівы кантроль павышаюць радасць ад навучання, стымулююць актыўнасць вучня.

Неабходна памятаць, што незалежна ад слоў, якія гаворыць настаўнік, пачуцці і адносіны да дзіцяці ён выказвае і сваім знешнім выглядам. Тон, пастава, выраз твару, візуальны кантакт, дыстанцыя, якую ён выбірае ў размове з вучнямі, — перадаюць тое, што не сказана словамі, нясуць ацэначную інфармацыю.

Ацэначныя меркаванні дарослых і школьныя адзнакі могуць фарміраваць у дзіцяці як станоўчую, так і негатыўную самаацэнку.

Поспехі ў вучобе садзейнічаюць росту самаацэнкі, што ў сваю чаргу ўздзейнічае на ўзровень вучэбных поспехаў праз механізмы спадзяванняў, запатрабаванняў, упэўненасці ў сваіх сілах. Гэта замкнёнае кола, якое дзейнічае станоўча, калі хоць бы адзін з гэтых фактараў пазітыўны, а калі абодва адмоўныя, даны механізм дзейнічае разбуральна. Негатыўная ацэнка вучэбных здольнасцей павышае верагоднасць фарміравання агульнай негатыўнай самаацэнкі і можа служыць прыкладам самарэалізацыі прароцтва. Яго механізм просты: індывід старанна пазбягае сітуацый, якія змяняюць яго Я-канцэпцыю. Замест таго каб накіраваць свае намаганні на пераадоленне няўдач, ён дыстанцыруецца ад праблемы. У выніку няздольнасць замацоўваецца не толькі ў свядомасці, але і ў рэальнасці.

Каб знізіць уплыў нізкай паспяховасці на самаацэнку, вучні выбіраюць розныя спосабы псіхалагічнай абароны: поспехі ў спорце, працы, а часцей — дрэнная дысцыпліна, пропускі ўрокаў, правапарушэнні. "Было б няправільна падтрымліваць у школьнікаў, якія не праяўляюць вялікіх здольнасцей да вучобы, уяўленне аб тым, што вышэйшай каштоўнасцю і галоўным фактарам усякай асобаснай ацэнкі з'яўляецца толькі выдатная паспяховасць. У кожнага дзіцяці ёсць свае моцныя бакі, свае станоўчыя якасці, на якіх чулы дарослы павінен дапамагчы яму выбудаваць трывалы падмурак пазітыўнай самаацэнкі". А гуманная сістэма ацэнкі ў школе павінна ўлічваць не толькі паспяховасць саму па сабе, але і добрасумленнасць, стараннасць, гэта значыць, намаганні вучняў.

Самаўспрыняцце і адпаведна дасягненні вучня ў вялізнай ступені абумоўлены спадзяваннямі, рэакцыямі і ацэнкамі настаўнікаў, іх установкамі, якія яны часта нават не ўсведамляюць.

Аснову школьнага жыцця складаюць міжасобасныя стасункі і ўзаемадзеянні, у працэсе якіх настаўнікі і вучні ацэньваюць адны другіх. Усякая выказаная ацэнка інтэрпрэтуецца і выклікае тую ці іншую рэакцыю. У гэтым узаемадзеянні ва ўсіх яго ўдзельнікаў фарміруюцца спадзяванні, звязаныя з уласнымі паводзінамі і з паводзінамі іншых. Даказана, што асабліва вялікі ўплыў спадзяванняў і ўстановак — на малодшых школьнікаў. З узростам гэты ўплыў змяншаецца, але ўсё ж адыгрывае сваю ролю. У кнізе Р.Бернса "Развіццё Я-канцэпцыі і выхаванне" дадзены наступныя рэкамендацыі, як пазбегнуць негатыўнага ўплыву эфекту спадзяванняў:

* удзяляйце ўвагу ўсім вучням;
* знайдзіце магчымасць для асабістага кантакту з кожным;
* хваліце справядліва;
* улічвайце індывідуальныя асаблівасці.

Ацэнка працы вучня адыгрывае вялізную матывуючую ролю ў яго дзейнасці. Але з псіхалагічнага пункту гледжання важная не любая матывацыя вучэбнай работы, а такая, якая заснавана галоўным чынам на пазнавальнай патрэбнасці і інтарэсе, на прызнанні вынікова-працэсуальнай каштоўнасці гэтай дзейнасці. "Між тым, калі настаўнікі з моманту з'яўлення дзіцяці ў школе пастаянна карыстаюцца адзнакай як матывуючым сродкам, як сродкам падахвочвання вучня да работы, то тым самым яны перамяшчаюць цэнтр матывацыйнай сферы яго дзейнасці з самой дзейнасці, яе вынікаў і працэсу на ацэнку дзейнасці, гэта значыць, на нешта знешняе ў дачыненні да гэтай дзейнасці. Адзнака набывае самадастатковую каштоўнасць і засланяе сапраўдную каштоўнасць яго дзейнасці".

Галоўным у ацэнцы працы вучня павінен быць якасны аналіз. Ацэначныя меркаванні больш важныя, чым адзнака. Пажадана, каб настаўнік з дапамогай ацэнак і адзнак пераводзіў школьнікаў з арыентацыі толькі на вынік сваіх дзеянняў да арыентацыі на спосаб, правяраў бы не толькі правільнасць выніку рашэння, але і асаблівасці, спосабы дасягнення гэтага выніку.

Магчымасць мадэляваць сваю вучэбную дзейнасць, адэкватна яе ацэньваць, усведамляць не толькі вынік, але і працэс яго дасягнення прынцыпова змяняе адносіны настаўніка да вучэбнай работы. Яна павінна выступаць не толькі ў якасці сродку для авалодання ведамі, але дапамагаць дзіцяці ўсведамляць сябе як асобу. Школьныя дасягненні практычна ацэньваюцца пакуль яшчэ на аснове занадта глабальных інтэгральных паказчыкаў. Ацэнка адлюстроўвае, як правіла, узровень засваення ведаў, якім вучань павінен авалодаць па праграме. Але адзін і той жа ўзровень засваення (пры наяўнасці аднолькавых педагагічных уздзеянняў) можа быць дасягнуты за кошт розных відаў інтэлектуальнай актыўнасці. Гэта сведчыць пра тое, што высокі (як і нізкі) узровень авалодання ведамі можа мець рознае паходжанне і разнародную сімптаматыку. Важна ацэньваць не толькі канчатковы вынік, але і сам працэс яго дасягнення. Важна ўлічваць не толькі тое, што засвойвае вучань (змест), але і тое, як ён працуе. На жаль, дагэтуль педагогі арыентуюцца пераважна на выніку навучання, выкарыстоўваючы колькасныя крытэрыі. Пры гэтым самы нізкі і нездавальняючы крытэрый — "2" — змяшчае ў сабе не самы нізкі ўзровень, таму што вучань павінен выканаць не менш чым 50 працэнтаў задання.

Такім чынам, сістэма ацэнкі працы школьніка аказвае ўплыў на фарміраванне асобы, асабліва на самаацэнку і матывацыйную сферу, запатрабаванні і спадзяванні.

Негатыўная самаацэнка і матывацыя дзіцяці могуць быць істотна скарэкціраваны настаўнікам у працэсе навучання, калі заахвочвацца будзе не паспяховасць сама па сабе, а прыкладаемыя для гэтага намаганні, добрасумленнасць.

Тая частка Я-канцэпцыі, якая мае дачыненне да вучобы і ацэнкі, валодае самастойнай каштоўнасцю; калі яна з'яўляецца пазітыўнай, то індывід набывае свабоду выбару іншых відаў дзейнасці, дзе таксама будзе мець поспех; негатыўнае ўспрыняцце сваіх здольнасцей павышае верагоднасць фарміравання ў школьніка агульнай (працэс генералізацыі) нізкай і негатыўнай самаацэнкі, матывацыі пазбягання няўдач і пакарання, неадэкватных спосабаў псіхалагічнай абароны, якія часцей за ўсё прыводзяць да дэвіянтных паводзін.

У кнізе "Сітуацыя поспеху. Як яе стварыць" А.С.Белкін выказвае ў дачыненні да вышэйсказанага вельмі важную думку: "Мудрасць педагагічнага кіравання ў тым і заключаецца, каб радасць поспеху не прыводзіла да празмернай лагоднасці, а страх магчымага паражэння не паралізаваў волю. Дыялектычны падыход у ацэнцы любой педагагічнай з'явы заўсёды прадугледжвае разгляд у пары: поспех — няпоспех, веданне — няведанне, удача — няўдача і інш. Няўдачу, няведанне любіць нельга, радасці яны не прыносяць, але паважаць іх патрэбна".

Становячыся школьнікам, дзіця фактычна пачынае паралельна засвойваць дзве праграмы: праграму ведаў і праграму сацыялізацыі.

Абноўленая сістэма ацэнкі працы школьнікаў не павінна навешваць ярлыкоў (двоечнік, троечнік, сераднячок, харашыст, выдатнік), не павінна падзяляць вучняў на паспяваючых і непаспяваючых. Слова "непаспяваючы" назаўсёды павінна знікнуць са школы. Непаспяваючых вучняў не павінна быць, ды на самай справе іх і няма. Ёсць па-рознаму паспяваючыя школьнікі ў розных відах вучэбнай дзейнасці і на розных узроўнях.

**Ала ГРЫБЕНШЧЫКАВА,**
**псіхолаг сярэдняй школы № 15 Полацка.**

Класны кіраўнік: які ён?

# Уменне любіць дзяцей

***Пра складанасць прафесіі педагога вядома ўсім. Але быць проста настаўнікам — гэта адно, а вось выконваць яшчэ і абавязкі класнага кіраўніка — крыху іншая і больш складаная справа. Алена Сяргееўна Гілько працуе ў школе № 192 Мінска з 1996 года. За гэты час яна не толькі паспела прывабіць да сябе дзяцей, але і стаць (дарэчы, не так даўно) прызёрам гарадскога конкурсу "Школа і сям'я — крок насустрач", на якім вызначаўся лепшы класны кіраўнік.***

**— Алена Сяргееўна, з пяці год вашай працы ў школе — чатыры вы з'яўляецеся класным кіраўніком. І хоць вопыту ў вас яшчэ не вельмі шмат, тым не менш здаецца, што вы добра разумееце, якім павінен быць класны кіраўнік.**

— Думаю, не памылюся, калі скажу, што самае галоўнае — любіць дзяцей. Гэта якасць з'яўляецца асновай асноў, тым фундаментам, на якім будуюцца адносіны паміж настаўнікам і вучнямі. Дзеля дасягнення ўзаемаразумення класны кіраўнік павінен адносіцца да сваіх вучняў як да асоб. Вядома, што кожнаму хочацца быць заўважаным, хочацца паказаць свае здольнасці. Безумоўна, класнаму кіраўніку трэба гэта ўлічваць і даваць вучням магчымасць раскрыцца, паказаць свае таленты, каб яны не лічылі сябе пакінутымі, лішнімі, а, наадварот, адчувалі вялікую асалоду ад таго, што з'яўляюцца неабходнай часткай калектыву. Кажуць, рыба пачынае псавацца з галавы. Таму ад таго, як пакажа сябе настаўнік, залежыць многае. Класны кіраўнік павінен паважаць дзяцей, прычым рабіць гэта не на словах, а на справе. Абавязкова трэба ведаць і сям'ю свайго вучня, і, калі таго патрабуюць абставіны, прыкласці ўсе намаганні да аказання неабходнай дапамогі. У абавязак класнага кіраўніка ўваходзіць наладжванне цеснай сувязі са школьным псіхолагам і спецыялістам па выхаваўчай рабоце. Гэта дапамагае правільна выбраць пазіцыю ў адносінах да кожнага вучня. Таксама не трэба забываць і пра традыцыі класа. Я са сваімі вучнямі, напрыклад, заўсёды праводжу "Дзень імяніннніка". Кожнага вучня віншуе ўвесь клас.

**— Я маю падставу сцвярджаць, што вучням тэатральнага 6 "Г" вельмі пашанцавала з класным кіраўніком. Цікава, а ці дапамагаюць самі дзеці свайму настаўніку ў яго нялёгкай працы?**

— Не задумваючыся скажу — так. Гэта ў першую чаргу тычыцца дапамогі з боку класнага актыву. У нас ёсць староста, ёсць свой "Бізнес-цэнтр", які непасрэдна збірае патрэбныя сумы грошай для паходаў у кіно, тэатр і г.д. Існуе і пасада так званага масавіка-забаўніка, які прымае самы актыўны ўдзел у арганізацыі розных мерапрыемстваў. Увогуле, мае "тэатралы" не праяўляюць пасіўнасці. У нас сфарміравана свая рэдкалегія, ёсць спартыўны аддзел, і, безумоўна, такая актыўнасць вучняў прыносіць мне толькі задавальненне.

**— А якую ролю адыгрываюць бацькі ў адносінах паміж настаўнікам і вучнямі?**

— Мне прыемна адзначыць, што ў нас дзейнічае непарушны трохкутнік "бацькі-дзеці-настаўнік". Многім бацькам важна не толькі ведаць пра вучобу сваіх дзяцей, іх паводзіны на занятках, але і прымаць актыўны ўдзел у іх школьным жыцці. Створаны бацькоўскі камітэт, які займаецца непасрэдна вырашэннем розных пытанняў у гэтым накірунку. Многія мамы, напрыклад, не адмаўляюцца дапамагчы мне ў арганізацыі вечароў, заўсёды гатуюць нешта смачнае. Ужо традыцыяй стала правядзенне ў канцы года адкрытага бацькоўскага мерапрыемства, якое ўключае ў сябе тэатральнае прадстаўленне, падрыхтаванае вучнямі, і ўручэнне ім падарункаў ад бацькоў. Завяршаецца мерапрыемства традыцыйным запускам у неба паветраных шароў.

**— І апошняе пытанне. Гледзячы на вас, на ваш вясёлы настрой, магу для сябе зазначыць, што вы не шкадуеце аб выбары сваёй прафесіі. У чым яе галоўная прывабнасць?**

— Думаю, прывабнасць у тым, што, сталеючы з кожным годам, мы па-ранейшаму застаемся дзецьмі, адчуваем асалоду ад жыцця дзякуючы радасным дзіцячым вочкам, якія на нас пазіраюць.

**Андрэй КАЖАМЯКІН,**
**студэнт факультэта журналістыкі БДУ.**

Патрыятычнае выхаванне

# Вельмі важна ўсхваляваць

***Летась пабачыў свет і адразу ж быў раскуплены дапаможнік ""Пошук" і патрыятычнае выхаванне" (Магілёў, 2000), які напісаў нястомны ўдзельнік пошукавага руху, загадчык сектара абласнога цэнтра турызму, краязнаўства і экскурсій Мікалай Барысенка. Дзякуючы свайму зместу і структуры кніга атрымала самы станоўчы водгук як у сродках інфармацыі, так і сярод краязнаўцаў і настаўнікаў вобласці, якім яна, уласна кажучы, і адрасавана. Сёння газета друкуе два водгукі на гэтую кнігу.***

Аўтар звярнуўся да вельмі актуальнага накірунку краязнаўчай работы — да пошукавай працы па знаходжанні і перазахаванні астанкаў салдат Другой сусветнай вайны, якія загінулі на Магілёўшчыне. Па самых сціплых падліках, на тэрыторыі нашай вобласці ў брацкіх магілах, а часта проста ў акопах і варонках, пахавана не менш як 150 тысяч воінаў. Толькі пры абароне Магілёва ў 1941 годзе загінула каля 15 тысяч чырвонаармейцаў. Пахавана ж у брацкіх магілах усяго каля адной тысячы. А прозвішчаў загінуўшых воінаў мы сёння ведаем і таго менш.

Для самога Мікалая Барысенкі вяртанне памяці аб загінуўшых і добраўпарадкаванне іх магіл даўно ўжо стала справай жыцця і самай дзейснай формай патрыятычнага выхавання моладзі. Ён добра ведае сваю справу і з мэтай абуджэння грамадскай цікавасці і развіцця пошукавай працы напісаў згаданы дапаможнік. Тое, што ён напісаны дасведчаным чалавекам, бачна з самой структуры дапаможніка, у якім мы знойдзем мінімум тэорыі і максімум парадаў, інструкцый, апісання магчымых складаных сітуацый, праблем, з якімі можа сустрэцца пошукавік, і спосабаў іх вырашэння. Выданне — не проста класічны дапаможнік па вызначэнні, ён заклікае дапамагчы.

Відавочна, што аўтар занепакоены станам справы і робіць усё магчымае для выяўлення і перазахавання астанкаў і ўвекавечання памяці загінуўшых у гады вайны, для таго, каб паставіць апошнія кропкі ў іх лёсах. Апошнім часам дзейнасць пошукавых атрадаў ускладнілася. Пасля прыняцця некалькіх дзяржаўных нарматыўных актаў і стварэння спецыялізаванага батальёна ваеннаслужачых тэрміновай службы грамадскім пошукавым фарміраванням было забаронена правядзенне работ на Беларусі. Яны сталі весці сваю высакародную працу ў Смаленскай, Пскоўскай, Наўгародскай абласцях. На Магілёўшчыне ж грамадскі рух стаў затухаць, актывізаваліся "чорныя" пошукавікі, павялічылася колькасць нелегальных раскопак. У апошнія гады сітуацыя вакол грамадскіх атрадаў крыху нармалізавалася, але і сёння прыходзіцца даказваць неабходнасць гэтай работы, яе станоўчы ўплыў на выхаванне маладога пакалення.

Асноўную ўвагу аўтар удзяліў пытанням падрыхтоўкі і арганізацыі пошукавай экспедыцыі. Падрабязна асветлены дзеянні па пошуку матэрыялаў у архівах, сродках масавай інфармацыі і мемуарах, тэхналогія збору і асаблівасці выкарыстання вусных крыніц. Яшчэ больш дэталёва распісаны крокі пошукавіка пры правядзенні разведвальнай экспедыцыі: тэхніка разведкі металашукальнікам і шчупам, матэрыяльнае забеспячэнне, работа з картай.

Уладальнік гэтага унікальнага выдання атрымоўвае поўны набор інструкцый і ўзораў для вядзення пошукавай работы, што, безумоўна, будзе спрыяць развіццю пошукавага руху ў нашым рэгіёне. Дэфіцыт асобнікаў ужо сёння выклікае неабходнасць давыдання дапаможніка.

**Аляксандр АГЕЕЎ,**
**дацэнт Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.А.Куляшова, кандыдат гістарычных навук.**

***

Актуальнасць і своечасовасць метадычнага дапаможніка не выклікае сумненняў. Чым далей адыходзіць ад нас вайна, тым вастрэй бачым мы яе рысы.

М.С.Барысенка добра вядомы як нястомны ўдзельнік пошукавага руху. Накоплены вопыт дапамог яму падрабязна, кампактна і прафесійна разгледзець пытанні падрыхтоўкі і правядзення пошукавых работ, паказаць іх значнасць у патрыятычным выхаванні моладзі.

Зараз, калі зусім змянілася жыццё і іншымі сталі жыццёвыя гарызонты, вельмі важна ўсхваляваць, уздзейнічаць на падлеткаў сілай вобразаў, адметнасцю і логікай фактаў. Пошукавая работа, як слушна адзначае аўтар, абуджае цікавасць, схіляе да разваг, а галоўнае, выклікае пачуццё прыналежнасці да падзей тых дзён, робіць падзеі Вялікай Айчыннай асабіста значнымі.

Знаёмства з героямі і салдатамі вайны (многія з якіх засталіся безыменнымі) раскрывае перад настаўнікам багацейшыя магчымасці ў правядзенні выхаваўчай работы, фарміраванні грамадзянскасці ў падрастаючага пакалення.

Метадычныя рэкамендацыі напісаны як падручнік — проста, канкрэтна, сістэмна, лаканічнай, дакладнай мовай. Даступнасць, мноства даведачных і інструкцыйных матэрыялаў, шырокая бібліяграфія далі магчымасць аўтару падрыхтаваць дапаможнік, які доўга будзе настольнай кнігай арганізатараў пошукавых работ, паслужыць высакароднай справе вяртання з небыцця імёнаў загінуўшых воінаў.

**Вячаслаў КАПЫЦІН,**
**загадчык кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін МДУ, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, член-карэспандэнт Акадэміі адукацыі Рэспублікі Беларусь.**

Фотарэпартаж








# У школе імя Яўгена Мікалуцкага

Фашчэўскай сярэдняй школе Шклоўскага раёна ў 1998 годзе было прысвоена імя яе былога выпускніка Яўгена Мікалуцкага. Сельская школа імкнецца не адставаць ад гарадскіх. Пра гэта сведчаць поспехі на прадметных алімпіядах, па выніках якіх ёй прысуджана першае месца ў раёне.

Школа працуе над праблемай дыферэнцыяцыі і гуманізацыі навучання. Добра арганізавана профільнае навучанне ў дзесятым класе.

Калектыў школы падтрымлівае цесныя сувязі з базавай гаспадаркай, у якой працуе вялікая колькасць выпускнікоў школы механізатарамі, спецыялістамі вышэйшага і сярэдняга звяна.

У школе дзейнічае шэраг гурткоў: краязнаўчы, радыёклуб, мастацкай самадзейнасці, "Умелыя рукі", трусагадоўлі, інфарматыкі, функцыянуе філіял музычнай школы. Педагогі ганарацца сваімі выпускнікамі, сярод якіх нямала вядомых імёнаў. Гэта і народны паэт Беларусі Яўген Крупенька, і доктар эканамічных навук Аляксандр Гадуноў, і дактары фізіка-матэматычных навук Эдуард Сенакосаў і Эдуард Рэентовіч, дырэктар тэатра імя Янкі Купалы І.Ф.Міхалюта і інш.

НА ЗДЫМКАХ: дырэктар школы Людміла Аляксандраўна Жураўлёва. Яна таксама былая выпускніца Фашчэўскай школы. Спачатку працавала тут настаўніцай геаграфіі, а з 1999 года назначана дырэктарам. Людміла Аляксандраўна мае вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю, дэпутат сельскага Савета, намеснік старшыні сельскага Савета, член творчай групы па геаграфіі; на другім здымку — настаўніца матэматыкі Жанна Уладзіміраўна Сякацкая, настаўніца пачатковых класаў Марыя Іванаўна Дашкевіч, настаўнік працоўнага навучання Леанід Вікенцьевіч Дашкевіч, настаўнік рускай мовы і літаратуры, завуч Уладзімір Фаміч Сурыновіч, сацыяльны педагог Людміла Іванаўна Ткачова. Усе яны — былыя выпускнікі гэтай школы; на трэцім здымку — настаўніца Жанна Аляксандраўна Дашкевіч сярод сваіх вучняў. Яна працуе тут пасля заканчэння Магілёўскага педвучылішча.

**Анатоль ДАШКЕВІЧ.**
**Фота аўтара.**

А як за мяжой?

# Ці строгія завучы ў Амерыцы?..

***Многія завучы Беларусі пастаянна скардзяцца, што шматлікія службовыя абавязкі здаюцца ім бессэнсоўнымі, цяжкімі, адымаюць шмат часу.***

Цікава, але завуч ёсць і ў Амерыцы. Там пасада падобнага спецыяліста называецца дэкан. Ён адказвае за выхаваўчы працэс і парадак у школе. Занятасць, як і ў іншых выкладчыкаў, да сямі гадзін у дзень.

Дэкан мае свой кабінет — дэканафіс, з якога выходзіць рэдка, хоць праблем з дысцыплінай вучняў хапае і ў Амерыцы. Асабліва дэкана хвалююць прагулы, крадзёж і наркаманія.

За настаўнікамі амерыканскі завуч не сочыць, як Штырліц, у іх работу не ўмешваецца, ды і настаўнікі, у сваю чаргу, клапоцяцца не пра выхаванне школьнікаў, а пра іх паспяховасць. І калі падлеткі што-небудзь вытвараць на ўроку, настаўнікі іх адпраўляюць разбірацца ў дэканафіс.

Як жа дзеці ставяцца да выкладчыкаў-"кляўзнікаў"?

Нармальна. Бо настаўнікі проста абавязаны паведаміць дэкану пра ўсе агрэхі — так ужо заведзена.

Дарэчы, з-за вялікай колькасці прагульшчыкаў дэкану могуць знізіць зарплату, бо гэта значыць, што ён дрэнна клапаціўся пра дысцыпліну.

Якія ж спагнанні накладваюць часцей за ўсё ў амерыканскай школе?

У канцы заняткаў педагогі прыносяць у дэканафіс візітныя карткі ўсіх, хто правініўся. А на наступны дзень дэкан высвятляе ў віноўнікаў прычыны, што пабудзілі іх да дурных учынкаў. Я лічу гэта вельмі разумным. Бо нашы нервовыя крыкі адразу па гарачых слядах, упэўнены, нічога разумнага не даюць.

Дэкан размаўляе з кожным віноўнікам строга індывідуальна, пры неабходнасці выклікае бацькоў. Яны, у сваю чаргу, паводзяць сябе па-рознаму, падчас таксама, як і іх дзеці, нервова і раздражнёна. Бо многія з іх лічаць, што, прызнаўшы віну свайго чада, яны тым самым трацяць уласны гонар і аўтарытэт. Але калі справа даходзіць да паліцэйскага ўчастка, то там бацькі ўжо не дыскутуюць, абараняючы сваіх дзяцей.

А па якіх жа прычынах дэканафіс звяртаецца ў паліцыю?

Нічога страшнага ў кантактах школы з паліцыяй няма. Яны неабходны, як і з мясцовым аддзелам народнай адукацыі, медыцынскімі і іншымі службамі. У Амерыцы кожны бярэ на сябе долю адказнасці за выхаванне дзіцяці.

Скажам, у амерыканскай школе бываюць таксама выпадкі крадзяжу, але гэта не значыць, што па кожнаму з іх дэкан звоніць у паліцыю. Бо псіхіка падлетка — складаная рэч, і крадзеж тэнісных тапачак часам тлумачыцца проста дзіцячымі жартамі, свавольствам. Тут дастаткова правесці гутарку, сказаць бацькам выплаціць кошт рэчы. І ў Амерыцы вучацца розныя дзеці, і ў характары некаторых з іх закладзены ўсе агрэхі грамадства. Як сцвярджаюць тутэйшыя дэканы: дай ім волю — і яны спустошаць нават дэканафіс.

А наркотыкі? Многія амерыканскія школьнікі добра ведаюць, што такое марыхуана, крэк, гераін. Як тут ужо не звярнуцца ў паліцэйскі ўчастак? Меру спагнання вызначаюць ужо разам, гэта можа быць і проста гутарка па душах, і штраф.

Не сакрэт, што і некаторыя вучні ўспрымаюць дэканафіс як пост, дзе дзяжурыць свой школьны паліцэйскі...

Аднак дэканы ўсё ж, хутчэй, імкнуцца выглядаць у вачах дзяцей добрасумленнымі суддзямі, якія не спяшаюцца абразіць дзіця, прыняць строгія меры, а справядліва ўзважваюць усе "за" і "супраць".

Завуч у Амерыцы, як і звычайны выкладчык, укладваецца ў рамкі рабочага дня, так што вечарам можа цалкам аддаць сябе любімым заняткам.

**Кастусь КАРНЯЛЮК.**

